Цана асобнаго № 40 кап.

# Вольная Беларусь

ТЫДНЁВІК палітычны і літэратурны

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На год . . 12 р. —
На паўгода . 7 р. —
На 1 месяц . 1 р. 50 к.

Перамена адрэсу 50 к.

Ніхай жыве незалежная Беларусь!

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
г. Менск, Захараўская, 18.

ГОД ВЫДАННЯ II.

№ 32. 22-го верасьня 1918 г. № 32.

### Ад Рэдакцыі.

Пачынаючы з 31 №, «Вольная Беларусь» уводзіць правапіс паводлуг граматыкі Б. Тарашкевіча, пакідаючы у сіле §§ 2, 3 і 5 артыкула «Наш правапіс». (Глядз. № 4 «В. Б.»).

**Рэдакцыя.**

## Вайна.

Грымяць дужа ужо доўга вялікія бітвы,
Калышуць зямныя абшары;
Народы у зброях. Адна іх малітва—
Пагібель, руіны, пажары.
Гарматаў жаролы равуць і рагочуць;
Як драканы сьмерці, гранаты якочуць.
Мячы аб мячы зычна звоняць.
Валькірыі гімны страшэнныя твораць;
Ім гэніі жаху галосна утораць,
Віхор аб хаўтурах гамоніць.
Скрозь падаюць сілы,—ваяцкія сілы,—
У магілы...
Хай голад і холад, хай сьмерць ўсё руйнуе:
Натхненне пабеды народы гартуе.
—Наперад! Наперад!—ня ведаюць жалю.
—Наперад! Наперад!—бо мала, бо мала.
—Наперад! Ратаі, пакіньце палеткі!
Хай людзі старыя, хай дробныя дзеткі
Матулю-зямлю засяваюць!
Народы ў акопах жывуць пад зямлёю,
Ваякі у моры сядзяць пад вадою,
Адважна у паветры лунаюць.
Іх ведаюць думкі, і рукі, і сьпіны—
Руіны...
Здабытыя скарбы народаў вякамі
Вялікаму Марсу даюць у ахвяры;
Іх возяць па грунту, сплаўляюць марамі,
І нікне ўся праца людзкая, як мара,
І нішчуцца груды багатых мэталаў,
Жывёлам, расьлінам пагібель настала
І збожжу і пушчам усюды.
А весткі аб дзеях усюль далятаюць,—
Што хвілю—мінюту. Аж сьвет задзіўляюць
Агнёвыя радзіо-цуды.
Хто хорам пякельным такім дырыжуе—
Кіруе?

. . . . . . . . . . . . . . .

Час пройдзе. Ад гэтай вайны, гвалтавання
Астануцца толькі адны успаміны.
Заціхне навекі віхор руйнавання,
Вясновыя краскі атуляць даліны.
І людзі забудуць курганы—магілы,
І будуць карысна ужыты іх сілы
На шчасьце і згоду з натхненнем.
Аб дзеях сучасных гісторык раскажа,
Загадку эпохі ён кемна развяжа
Прад новым людзкім пакаленнем.
Сказ-песьню і лірнік спакойнага краю
Аб гэтым зайграе.

Менск. 1918 г. **Ясакар.**

## Нашы месты.

(*Гістарычныя нарысы паводлуг кнігі Семенава „Живописная Россія“*).

(Глядзі № 31).

**Вільня.**

С часу прыняцця Ягайлам хрысьціяна па каталіцкаму звычаю Вільня прыняла характар хрысьціянскага гораду. Разам з Ягайлам хрысьцілося і шмат літоўскіх баяр. Пачалося нішчэнне паганства у пэлым гаспадарсьцве і будавалося шмат касьцёлаў ва ўсём краю. Ня гледзячы на гэта, як само паганство, так і яго звычаі яшчэ доўга панавалі у Вільне і асабліва у адлеглых ад сталіцы мейсцох.

Ягайла надараваў гораду магдэбургскага права (1387 г.). З гэтаго часу даўнейшы гэрб места, выбражаўшы а л ц ы с а, баечнаго сілача, з жонкаю на плячах, з вялізным дрэвам, вырваным з коранем, заміж палкі, пераходзячаго у брод моро ці рэчку.—стаў звацца сьв. Хрыстафорам, з захаваннем даўнейшаго малюнка.

Пажар у 1399 г. зьнішчыў значную часьціну горада, а войны з Кейстутам, змаганні Ягайлы з Вітаутам, напады рыцараў, асабліва напад вял. магістра Конрада Валенрода—давялі Вільню да цяжкаго становішча. Затое, калі Вітаўт дасягнуў свае мэты і зрабіўся вялікім князем Літвы і Русі незалежна ад Ягайлы, каторы стаў каралём Польскім, і калі Вільня стала сталіцаю усёй Літвы і Русі, дык яго разумнае справаванне і яго турбацыя аб дабрабыту усіх сваіх подданных скора залячылі папярэднія раны, і Вільня у часы яго панавання была вялікім, многалюдным і багатым местам. С часу устанаўлення Заходняе мітраполіі Віленская Прачысьценская цэрква стала мітраполітальным саборам. У Вільню сьцякаліся князі і баяры з усяго гаспадарства, будавалі тут палацы і, разумеецца, многа дапамагалі росту дабрабыта горада. У Вільне вял. князь Вітаўт сьвяткаваў свае перамогі над ворагамі, а кожная перамога багаціла яго скарб. Тут ён шлюбаваў у ханство Бетсабулу і Герэмфердэна, тут прыніжаныя і разьбітыя пад Грюнвальдэнам рыцары удыгалі вялікаму князю праз сваіх упоўнаважаных. Так сама упоўнаважаныя ад вял. князя Маскоўскаго, ад імпэратара рымскаго Зыгмунда, з Чэхіі, Даніі абкружалі двор Вітаўта. Вітаўт лічыўся тагды адным з магутнейшых каралёў.

Панаванне караля Казімера было вельмі карыснае для Беларуска-Літоўскае сталіцы. Гандаль пры ём значна павялічыўся. Ен устанавіў (1441 г.) два кірмашы, адзін на Правады, а другі на Сьвятка (Усьпенне). Абадва цягнуліся па дзьве і болей нядзелі і служылі цэнтральным пунктам менавога гандлю, асабліва для Пскова і Ноўгарада.

Панаванне Александра, сына Казімера, вядомае, паміж іншым, тым, што пры ём была пабудована каменная сьцяна кругом горада. Умацаванне горада сьцяною навокала зроблено было яшчэ пры Гедыміну, але напады рыцараў, пажары і час амаль ня зусім зруйнавалі гэтую сьцяну. Тым часам места разрасталося і пашыралося далёка за пачатковую мяжу. Дзеля гэтаго вял. кн. Александра 6-го верасьня 1504-го г. зацьвердзіў пастанову аб пабудаванні каменнае сьцяны кругом горада. Мураванне сьцяны пачато было яшчэ раней—23-го сакавіка 1498-го г. Работа была скончана у 1506 г., і адбылася коштам самых жыхароў места. Пабудованая каменная сьцяна мела пяць гарадзкіх каменных брам: Вілейкская, Троцкая, Крэўская, каторая звалася Медніцкай, а потым Вострабрамскай; Спаская і Рудніцкая. Апрач гэтых глаўных, або вялікіх брам, істнавалі яшчэ бакшты з выхадамі, як прыкладам Мокрая, Татарская, Чортава і іншыя. (У апошней трымаўся пад вартаю разбойнік Ч о р т а ў-Б а ц ь к а, ад катораго і сама бакшта празвалася Ч о р т а в а й). Вышынёю сьцяна была 22 локці, і круг гэтае сьцяны цягнуўся навокала места на цэлыя пяць вёрст. Руіны яе захаваліся да гэтаго часу за манастыром Сьв. Духа, за Востраюбрамаю, на гары Бакшці і на

Замковым перавулку. Вострабрамскія вароты, цяпер істнуючыя, без вантпення, калі ні саўсім, то часткаю складаюцца з даўнейшых Вострых варот. Прыгожая готыцкая званіца францішканскаго касьцёла, напэўна, перароблена з Трокскае брамы. На жаль, яна нядаўна разрушана. Глаўная Замковая брама істнавала у даўнейшым выглядзе аж да 1837-го г..

Горад, абведзены мурам, дзяліўся на шэсьць палавіць: Літоўскую, Рускую, Нямецкую, Татарскую, Жыдоўскую і інш.

Німа вантпення, што грошы пачалі кавацца у Вільне яшчэ пры Вітаўту, але ці быў пастаянны грашавы двор, ці грошы каваліся за граніцай,—с пэўнасьцю сказаць трудна. Толькі пры каралю Александру мы бачым ужо правільна арганізованы грашавы двор пад кіраўніцтвам Ульрыха Гозіуса. Наогул, панаванне караля Александра адносіцца да лепшых часоў для Вільні. Малжонка яго, Гэлена Іоаннаўна, дачка цара Іоанна III Маскоўскаго, улюбленніца народа, меўшая пастаянныя зносіны з маскоўскім дварам і прыхільніца маскоўскіх купцоў з Ноўгарада і Цьверы,—многа дапамагала росквіту сталіцы.

Але самымі лепшымі часамі жыцця сталіцы Вільні трэба лічыць панаванні Зыгмунда I і яго сына Зыгмунда-Аўгуста, апошняго з роду Ягелланаў. Насяленне дасягло ліку 200.000. Бляск і прыгожасьць каралеўскаго двара, багатае, пышнае жыцце вяльможных паноў, росквіт гандлю і прамысловасьці дзівілі чужаземцаў. Ян, князь фінляндзкі, сын Густава Вазы, калі пад'язджаў да Вільні (с Пагулянкі), дык быў зьдзіўлен прыгожасьцю і пекнатою малюнка, які яму прадставіўся, і казаў, што мала ён бачыў гэтакіх гарадоў у сваём жыцці. Яго дзівіла гэтак сама рознаплямённасьць насялення сталіцы: літоўцаў, рускіх, палякоў, жыдоў, немцаў, армянаў, туркаў, грэкаў, татараў, хадзіўшых у сваіх нацыянальных вопратках. Само сабою разумеецца, што яго яшчэ больш дзівіла тая брацкая згода, якая панавала у Вільні паміж гэтых народаў, ня гледзячы на рознасьць вызнання. Ня было рэлігійнае барацьбы, ня было фанатызму, і людзі жылі згодна, дружна,—вольна вызнаючы кожны сваю веру і звычаі. Гэта было скуткам слаўнаго панавання верацярпімаго Зыгмунда-Аўгуста.

Панаванне Стэпана Батораго прайшло для Вільні зусім непрыкметна. Кароль рэдка быў у Вільні. У яго панаванне адбылася кара сьмерцю аднаго з слыннейшых вяльмож, Грыгора Осьціка, катораго пакаралі сьмерцю у 1580 г. 18-го чэрвеня за зносіны з маскоўскім царом Іванам IV.

Упадак горада пачынаецца, уласна кажучы, у час панавання Зыгмунда III, с часу уладарства езуітаў. Барацьба з іншымі вызнаннямі, барацьба праваслаўных з вуніятамі, розныя нацужыцці, што чыніліся моладзью з езуіцкіх школ, напады на кальвініцкія храмы, выкідванне пакойнікаў с трунаў у час працэсіі на могілкі, нішчэнне на агне кальвінскае быбліі (берасьцейскай) і іншых кніжак не каталіцкаго зьместу, гэтакае-ж нішчэнне кніжак Скаргі праваслаўнымі, уціск і выгнанне братчыкаў, нацады на манастыр Сьв. Тройцы, захваты праваслаўных храмаў, замах на забойство Іпація Пацэя, узаемная рэлігійная злосьць і верададванне, агульная жалоба і роспач, а потым пажары, голад і страшэнная беднота — вот малюнак грамадзянскаго жыцця у Вільні у панаванне фанатычнаго Зыгмунда III. Узаёмная любоў і братэрство, панаваўшыя у час верацярпімаго Зыгмунда-Аўгуста, зьмяніліся злосьцю і сваркамі; тагочаснае багацце, росквіт гандлю і прамысловасьці зьмяніліся беднатою і поўным заняпадам карыснай грамадзкай чыннасьці. Пачаўшыся пры Зыгмунду III-м, заняпад места цягнуўся і далей, і Вільня ніколі ужо ня бачыла свайго даўнейшаго дабрабыту і значэння.

У 1609 г. 11-го жніўня, па загаду Зыгмунда III-го каралеўскія камісары Сянкоўскі і Краеўскі перадалі пад загад мітрополіты Пацэя 12 праваслаўных цэркваў і, паміж імі, саборную цэркаў Прачыстае Богародзіцы і абедзьве цэркві сьв. Мікалая. Троіцкая цэркаў і манастыр аддадзены былі вуніятам яшчэ раней.

Пажар 1610-го г. зьнішчыў амаль ня ўвесь горад. Захаваліся толькі ваколіцы. Тагды згарэло 10 розных цэркваў, езуіцкая акадэмія, трохі ніжні замак і, як пішуць сучасьнікі, 4.000 розных будынкаў. Даўнейшая, старая сталіца Беларуска-Літоўскаго Гаспадарства зруйнавалася амаль ня зусім. Надышоў новы гістарычны перыод, а з ім і надворны бок места прыняў новы выгляд, захаваўшы дзе-ні-дзе кускі даўнейшай сталіцы.

Уладыслаў IV у першы год свайго панавання (1632 р.) уважыў жальбы праваслаўных і забяспечыў за імі Сьв. Духаўскі манастыр, а гэтак сама загадаў вярнуць адабраныя вуніятамі цэркві: Васкросенскую, сьв. Яна і сьв. Георгія. С часоў Зыгмунда III-го, пры моцным уплыве і рупнай чыннасьці езуітаў, большасьць вяльможных паноў і шляхецтва перайшло у каталіцтво. Як праваслаўе, так і протэстанство страцілі сваё пануючае значэнне. З гэтаго часу лік рымска-каталіцкіх касьцёлаў і манастыроў пастаянна пабольшваецца. Езуіты пабудавалі у 1622 г. другі колегіум с касьцёлам у імя сьв. Ігната. Апрач таго, многа было пабудовано касьцёлаў у XVII і XVIII стал., так што усіх каталіцкіх храмаў лічылося у 1766 г. у Вільне 32 і 23 манастыры. З новых касьцёлаў самым прыгожым быў касьцёл сьв. Казімера, пабудованы у лепшым мейсцы горада. У 1840 г. касьцёл гэты быў перароблен на катэдральны праваслаўны сабор.

(Канец будзе).

Я. Л-к.

*С цыклю «Беларускія легэнды».*

# Прылукі.

(С паперау К. Каганца).

Ня летась, не залетась, а калісь яшчэ ў старыну, як мы самі сабою яшчэ жылі, гэтае было.

У адным мейсцы, абапал Пцічы ракі, высяцца дзьве горкі дужа красныя, а пасярод ракі выспа ляжыць. На той гары, што на правам беразе, стаяў двор вяльможнаго баярына, на імя Яраслаў. Ды і красны-ж той двор быў! Увесь у садох. будынкі усе спраўныя былі, а кругом двор тынам белым абведзен; ад двара і да гасьцінца былі прысады ліповыя.

Быў дзень ясны. харошы, як у пачатку лета бывае, калі яшчэ лукі зіхацяць кветкамі, птушкі заліваюцца рознымі галасамі, рыба у рэчцы раз-у-раз плюскае, разганяючы шырока вакорыну, пчолы і ўсякія мошкі цэлымі раямі завіхаюцца каля кветак. Дзе ні глянь — усюды жыцце кіпіць, а сам пазіраеш на усё гэта, і сэрцо радуецца.

І вот па прысадах тых, у халадочку, любуючыся сьветам і самі сабою, прахаджаліся малады баярын Яраслаў з малжонкаю сваёю, краснаю Люблянаю. Ходзяць яны і цалуюцца, ажно дарога забубнела, і на узмыленым кані зьявіўся, увесь запылены, княжы ганец і, сукланіўся баярству, павяшчае нядобрую навіну, што вораг рубеж перайшоў і дужа наш край пустошыць і што князь прыказаў усім сваім баярам на вайну, чым дужы, пасьпяшаць.

Баярын рад чыну даказаць, сабе славы прыдбаць. Хутка сабраў сваю дружыну і паехаў.

Спачатку баярын слаў часта ганцоў да свае любай жонкі, а далей—ні ганцоў, ні самога штось ня чутно стало. І затужыла вельмі красная пані Любляна. Усё выходзіць на гасьцінец, і ў даль пaглядае ды усё дарэмна.

Прайшло лето, настала зіма, а любаго Яраслава як німа, так німа. Вышла раз гэтак красная Любляна ў канец прысадаў і як толькі на гасьцінец зірнула, так дужа і зрадзела: бачыць, коціць дружына, а папярадзе любы вараным канём едзе. Ды ня доўга яе радасьць была, бо, як той пад'ехаў бліжэй, пазнала, што гэта другі.

Тоіі пад'ехаў, сукланіўся, а яна і думае: „Можа ён што пра майго ведае?" Запрашае яна яго да сябе у палацы сапачыць трохі. Той рад, прыстае ды ідзе з ёю у сьвятліцу. Яна яго за стол пасадзіўшы, гукнула на слугі, сказала прынесьці піва, мёду і усялякай стравы. Стала яго частаваць і пра мужа любаго пытаць. Той, пагадаўшы, так ёй адказвае: „Ня хочацца мне табе, красная пані, жалю задаваць, але-ж мушу... Вота-ж бачыш,—твой муж, а мой друг сярдэчны, быў цяжка у баю ранен і, умiраючы, сказаў мне так: «Слухай, дружа! У мяне ёсьць жонка, красная пані, а ты яшчэ не жанаты, дык успакой мяне перад сьмерцю, бо мне скора канец: пакляніся заступіць ёй маё мейсцо». Што я меў рабіць? Мусіў прысягнуць, а цяпер ад прысягі адступіцца нельга... Так пані ніхай мне выбачыць і будзе прыхільна".

Тая тое як учула, давай плакаць, галасіці і слухаць яго ня хоча. Плакала яна дзень, плакала другі, а на трэці і падумала: „І чаго я гэтак плачу? Што я тым памагу? Толькі красу сваю змарную". І на чацьвёрты дзень дык ужо і гутарку прыязную з ім павяла, а на пяты—дык і жартаваць сталі, а далей і пабраліся.

Прайшло ізноў лето, прайшла і зіма, а за зімою вясна, а за вясною і лето настало. Сядзяць гэта той прыезжы баярын з краснаю Люблянаю, як галубке ў парачцы і сабою цешацца ды мілуюцца. Аж-но раптам Любляна як

хаўнік, пазнаўшы, што ён мае ласку у Бога, пытае: «Чаго табе, чалавеча Божы, трэба?» — „Малітву, паночку, забыўся. Будзь ласкаў, хоць раз яшчэ скажы!" — «Ня варт я, грэшны, цябе вучыць. Ідзі і маліся, як маліўся!»

## Дзе?

Дзе вы, цудоўныя казкі дзяцінныя
З ясным спакоем вясны?
Дзе вы чароўныя годы бязвінныя,
Шчасьця мінулаго сны?

Матчынай ласкі уцеха прытульная,
Звону царкоўнаго гук?
У дзень с кампанамі забава агульная,
Радасьць тых школьных навук?

Рэчкі паводнае крыгі пабітыя,
Нібы шкляныя плыты?
Лозаў, арэшынаў, чуць не залітыя
У поўнай лагчыне, кусты?

Дзе ты, далёкая воля нязьмерная,
Зорка бязклопатных дзён?
Гутарка дзеда старога вячэрняя
Пра скасаваны прыгон?

Усё адыйшло так далёка ў мінулае,
Зноў не паўстане яно!
Моцна сьпяць дзедавы косьці бясчулыя.
Дзе кампаны — ня чутно...

**Краўцоў Макар.**

## Каменны бог.

Кончыў грэцкі майстар сваю мармурную багіню. Атрос ён пыл з свае вопраткі і стаў аглядаць свой твор:

— Якая цудная грацыя!
— Якая музыка формаў!
— Якая гармонія ліній! Я чую ў іх водгалас арфы Аполёнавай. Я бачу ў іх карагоды вабных німфаў у тканінах з месячных зьянняў. Урэшці дачка надвоблачная выйшла з няволі, дзе яе трымаў камень дзікіх гор. Яе краіна—сьнежная пена хваль марскіх. Яе радзіцелька — вясновыя сьпевы эллядскіх дзяўчат. Яе дыадэма — раса з кветак Алімпа высокаго. Чалом перад каменнай багіней сьвет увесь пад соўнейкам!

У вялікай набожнасьці апусьціўся афінец на калені, прытуліў гарачую галаву да халоднаго мармуру і зашаптаў малітву. Ен маліўся Харастве—прыгожасьці, вольна лунаючы душою воддаль ад дабраты і благасьці людзкой. Яго істота была выткана з аднаго вялікаго гымна сьветламу Богу натхнення, дзе красуе каханне да зямлі—да усяго, што завецца жыццём..

І ён млеў ад шчасьця і піў бязсьмертную амброзію...

А багіня пазірала з вышкі свайго пьедасталу моўчкі і горда у блакітную даль і чакала багатых ахвяр афінен...

**З. Бядуля.**

**Францішк Алехновіч.**

## Чорт і Баба.

*Жарт у 1 акце.*

(Паводле народнай казкі).

**АСОБЫ:**

МІКІТА—малады селянін. БАБА—суседка.
МАРЫСЬКА—яго жонка. ЧОРТ.

Селянская хата. Як заслона адчынілася, на сцэне нікога німашака. Пасьля с-пад печы вылазіць **Чорт.**

**ЗЬЯВА І-ая.**

**Чорт.** Вось дык бяда! Варочацца ні з чым да пекла — сорам, дый Люцыпар прагоніць вон...

Жывуць у хаце гэй Мікіта с жонкай Марыськай. Як я ні стараюся іх пазвадзіць, пасварыць—нічога ні магу парадзіць, нішто ні памагае! Жывуць у згодзе, моў два галубкі.. Вось так-рок я закватэраваўся тут, у падпечку, так-рок Мікіта ажаніўся з Марыськай.. Гэта-ж ужо часу шмат! Пара-бы ім хоць раз палаецца, як сьлед, пэра, каб мужык хоць раз дый жонку сваю адлубасіў. Іншы дык ужо на другі дзень пасьля шлюбу схваце за косы і лупню добрую задае, каб, значыцца, прагнаць усялякую дур, а той і ні думае! Жывуць у згодзе, цалуюцца, бытцым учора спазналіся. А, каб іх маланка! Вось дык мука, даліпантачкі! Бывае, што так замаруся, што ледзь дыхаю. То ей нашэптываю на мужыка усякай брахні, то яму набрашу на жонку,—нічога ні памагае, і слухаць ні хочуць! Фу! і сьмех, і стыд—німа як гляяуць чартам у вочы: сьмяюцца усе... Што мне рабіць? На плач зьбіраецца ужо (выцірае хвастом вочы). Вось паганы льос, каб яго ні знаць! Ах, цяжка чартом быць на сьвеці!... (слухае).

Цсс! Нехта ідзе! Ідуць да хаты!.. Ну, калі іх ні пасвару, прыдзецца хіба павесіцца на сухой асіне!.. Трэба хавацца зноў пад печ! (улазіць пад печ). Ох, горкая доля мая!

**ЗЬЯВА ІІ-ая.**

**Мікіта і Марыська** (уходзяць), пасьля **Чорт.**

**Мікіта.** Людзі брэшуць... Кажуць: на сьвеці блага жыць. Усе злыя, сварацца, звадзяцца... Чаго? Далібог, ні разумею! Вось, бачыш, я с табой, Марыська, жывем у згодзі, ажно зайздруюць усе. Так-рок мы пажаніліся і праз гэны час ці адзін аднаму сказаў хаця дрэннае слова? Ці-ж ніпраўда?

**Марыська.** Але, Мікітка, добра нам жывецца! Я іншы раз, дык сама дзівуюся: чаму гэта мы так шчасьлівы? Ты добры для мяне, такі ты добры, што аж мне страх бярэ, каб шчасьце нашае калі-колечы ні пясавалося...

**Мікіта.** Ні пансуецца! Ніякі чорт ні здолее нас пасварыць. Дый чаго? Ты, Марыська, добрая для мяне, так сама язык стрымаць умееш зауседы; ні так, як іншыя, што мужа языком да злосьці даводзяць,—нічога насупроць ні робіш...

**Марыська.** Няхай мяне Бог сьцеражэ, каб я калі-колечы зрабіла, або хоць сказала нешта насупроць цябе!

**Мікіта.** А мне няхай рука адсохне, калі я наважуся цябе ударыць!

**Марыська** (абыймае Мікіту). Мікітка!

**Мікіта.** Марыська!

**Марыська.** Люблю цябе!

**Мікіта.** А я цябе!

Марыська. Цалуй мяне!

Мікіта. З усіх сіл!.. (цалуюцца).

Чорт (высоувае галаву с-пад печы). О! Язноу! А каб вас немач! І зрабі тут, што хочаш!..— (хаваецца).

Мікіта. Марыська! Сягоння еду да мястэчка. Скажы, што табе тамака купіць? Мо' хустку новую?

Марыська. На што гасьцінцы мне, Мікітка? Лепш сабе нешта купі.

Мікіта. Мне нічога ня трэба!

Марыська. Ды не, забыуся! Люльку-ж ты сваю зламау і другі ужо дзень махорку курыш у паперцы.

Мікіта. А прауда! люльку трэ' купіць... Добра, што прыпомніла. Значыцца, хустку для цябе, а для сябе люльку дый пачок махоркі.

Марыська. Ну, ніхай ужо так...

Мікіта. Іду, Марыська! Трэба каня перад дарогай напаіць! (выходзіць).

ЗЬЯВА III-ая.

**Марыська** (адна).

Трэба распаліць агонь, каб згатаваць Мікітцы есьці. Ен, бедненькі, ажно увечары вернецца—будзе галодны. (Дзьмухае у попел на прыпечку). А ад якога-ж чорта ен загас! Нідауна-ж гарачыя вуглі былі! (Шукае сярнічкау). А каб-жа іх! Трэба пабегчы пазычыць... Вось трэба яшчэ прыпомніць Мікітцы, каб сярнічкау пачок купіу у мястэчку...

ЗЬЯВА IV-ая.

**Марыська і Баба** (уваходзіць).

Баба. Пахвалёны...

Марыська. На векі.

Баба. Ну, што чуваць, зязюлечка?

Марыська. Нічога, дзякаваць Богу, благога... Вось мой зьбіраецца ехаць у мястэчко і прычапіуся, што новую хустку хоча мне купіць...

Баба. Ах, добры ен мужык! Усе дзівуюцца, уся веска так аб ім гамоніць. Скажы, зязюлька, прауду: няужо-ж ні разу ен цябе ня біу?

Марыська. Каб біць, трэба прычыну, а я ніколі нічога ні раблю ні паводле яго думак.

Баба. Ну, а як пьяны?

Марыська. Тагды ен яшчэ лепшы.

Баба. Дзіво, дзіво дый толькі!

Марыська. Выбачце, суседка, пасядзіце крыху, я тольікі зьбегаю пазычыць сярнічкау, каб распаліць агонь (выходзіць).

Баба. Добра, добра, зязюлечка!

ЗЬЯВА V-ая.

**Баба** (адна).

Бываюць-жа на сьвеці гэткія дзівы дзіуныя: каб муж ды жонку ніколі ня біу! Гэта-ж проста сьмех! Прауда, што мой, нябошчык, мяне так сама ня біу ніколі, але гэта ужо іншая справа: за тое-ж я яго, бедненькаго, добра лупцавала, ажно ні стрывау, каточак, бый узяу дый памер... Адзін раз, памятаю, схавау ен ад мяне мяшочак збожжа і пацягнуу яго у карчму прадаць. Спаймала я яго і як пачала качаргою дубасіць па патыліцы і па чым папала: «ах, ты, валацуга ты гэтакі! ад мяне ні уцёішся!»... ажно людзі зьбегліся бараніць маго пьянічугу... Але каб, як тут, сваркі ніякай ніколі у сямьі ня было-б,—першы раз чую!

ЗЬЯВА VI-ая.

**Баба і Чорт** (...ць с-пад печы).

Баба. Ну, ты згін... А ты-ж, чорт, чаго сюды залез? А кыш! а кыш, бо зара вазьмуся за качаргу!

Чорт. Выбачайце... Паслухайце мяне толькі цярпліва... Я бедны чорт... Хачу з вамі зрабіць адну умову.

Баба. Чаго хочаш, нечысьць пракляты?

Чорт. Фэ! кіньце, цётка, так брыдка лаецца! Я-ж вам нічога благога ні раблю...

Баба. Я-б табе зрабіла, ты—касматы!

Чорт. Успомніу я, што у вас, людзей, есьць прыказка: дзе чорт няйме, там бабу пашле...

Баба. Рэч вядомая: баба хітрэйшая за чорта.

Чорт. Дык, цётачка, памажы мне!

Баба. Якая я табе „цётачка", ты паганы сморад!

Чорт. Памажы!

Баба. Чаго-ж ты хочаш?

Чорт. Глянь на мяне: я высах ужо зусім, зусім ужо замарыуся, ледзь дух трымаецца у маем чартоускім целе. Пад прыпечкам,—вось там,—ужо год сяджу...

Баба. Дык пачынай аб справе! Чаго трэба?

Чорт. Як я ні мучуся, як ні стараюся, а пасварыць іх ня магу... значыцца, Мікіту з Марыськай... То ей шапчу: мужык твой пьяніца страшэнны, як гдзе спаймае які грош, у карчму да Боруха нясе. Яна сьмяецца толькі, туліцца ямчэй да свайго Мікіткі і кажа: не, а не! ні дам я веры! Мікітка мой гарэлкі не, ні пье!»... (іронічна) Але! дык с хлебам есьць!. Яму шапчу: дурны! дык твая жонка, як засьнеш, або с хаты выйдзеш вон, да каханка свайго зара бяжыць... А ен мне толькі плюне у вочы і маучыць... Ня верыць, шэльма!

Баба. Дык чаго-ж хочаш ад мяне?

Чорт. Пасварыць! Іх пасварыць!..

Баба. Э, які шпаркі! Захацелося кабыле воцту! Сам бачыш, што справа ня легкая.

Чорт. Я-ж не дарма...

Баба. А што дасі?

Чорт. Чаго-ж хочаш?

Баба. Дасі мех грошы?

Чорт. Добра... Дам, дам, ты толькі пасвары!.. А ці патрапіш?

Баба. Што? каб пасварыліся? Я так зраблю, што дзед ні толькі аблае бабу, але і пававолачыць за косы...

Чорт. Ну, пастарайся, заплачу... Ох, першы дзень я супачыну! Дагэтуль я ня еу, ня спау, а толькі думау аб справе... Скажы-ж мне, калі ты гэта зробіш? Хутка?

Баба. Калі так хочаш, дык можна нават сёння.

Чорт. Калі? калі? Каб ні праспау-б я!

Баба. Як плюне яна тры разы пад печ, дык вылазь і глядзі.

Чорт. Ну, добра, дзякую табе... Мех грошы сёння будзеш мець.

Баба. Эй, чорт, ты толькі ня скруці!

Чорт. Чартоусым гонарам клянуся! Хоць я і чорт,—свой гонар я то-ж маю!... Бывай здаровенька, бабулька!

Баба. Бывай здароу!

ЗЬЯВА XVII-ая.

**Баба** (адна).

Што-ж!.. пасварыць ні натта трудна. У жыцці сваём я ні такія нават штукі рабіла. Чаму-ж ні пасварыць, калі чорт так пекна просіць ды мех грошай у заплату абяцуе... А мілы чорт! Шкада толькі, што чорт, а то бліжэйшае знаёмства з ім ...

### ЗЬЯВА XIII-ая

**Баба і Марыська** (уваходзіць).

Марыська. Ну, вось і я! Ледзь-ледзь я сярпічкі дастала: у чатыры хаты бегала. Ну, дзякуй вам, што пасядзелі, папільнавалі хату мне.

Баба. Няма за што, няма за што, мая ты бедненькая!

Марыська. Чаго шкадуеце мяне?

Баба. Як не шкадаваць, калі такая бедная, такая бедненькая, што аж страх!

Марыська (спалохаушыся). Што кажаце? чаму?

Баба. Ах, як не шкадаваць цябе! Вось бачу, жывеш ты з мужам у згодзе, шчасьлівы вы, здаецца, што усе добра, так добра, што і ня трэба лепш, а нішчасьце вісіць над бедненькай тваей галованькай, а ты й ні бачыш яго!

Марыська (я. в.) Кажэце-ж, ні палохайце! што? што гэта?

Баба. А ты і ні бачыш... Ды німа дзіва! Ні бачыш, дык і не ведаеш нічога...

Марыська. Ах, суседка, ня муч, кажы!

Баба. Ці-ж ты ні бачыш, як муж твой дрэнна выглядае?

Марыська. А што? Няужо-ж ён хвор?

Баба. Ой, хвор, міленькая, ой, як хвор, так хвор, што хутка ужо і у дамавіну трэба будзе класьці. Ні раз я такія прыпадкі бачыла: жыве, жыве дый памрэ. Людзі нічога ні ведаюць. Адны кажуць:гаручка, іншыя яшчэ нешта выдумываюць, а я дык ведаю...

Марыська. Што кажаце? Мікітка мой памрэ? А што-ж яму гэтакае?

Баба. Як што? Сухія пад барадой вырасьлі валасы.

Марыська. Сухія валасы? пад барадой? Дык што-ж?

Баба. А гэта ужо першы знак: памрэ.

Марыська. Няужо-ж памрэ?

Баба. Памрэ.

Марыська. Дык што рабіць?.. Скажу яму, каб да цырульніка пайшоу, згаліу.

Баба. А крый-жа Бог! Згубіць яго ты хочаш! Дык ён адразу на мейсцы зробіцца мерцьвяк, як скажаш яму гэта!

Марыська (у роспачы). О, Божа-ж мой! Дык што-ж рабіць? Няужо-ж ратунку німа?

Баба. Э! які тут ратунак, калі вырасьлі пад барадой сухія валасы!

Марыська (плача). О, Божа мой, Божа мой! Ах, бедная я удава! Так добра усе было і вось звалілося нішчасьце! Памрэ Мікіта мой, памрэ! Што-ж я адна на сьвеці рабіць буду без яго! О, бедная я сіраціна—удованька! О, Божанька ты мой! што-ж мне рабіць!?

Баба. Ды што рабіць! Маліцца за душу грэшную, каб у чысцу доуга ні мучылася, бо ведама, што гэтыя с сухімі валасамі так адразу да неба ні пападаюць.

Марыська. Ах, бедная я, нішчасьлівая! Няужо-ж нічога ні парадзімо? Мо' да дохтара трэ' завязьці яго?

Баба. А крый-жа Божэ! Доктар як убачыць сухія валасы, дык зара дасьць такое лекарство, што на другі дзень Мікіта твой памрэ... Гэта значыць, яны дохтары гэта так, каб заразы ні было.

Марыська. Цётачка! Суседкчка! Кажэце-ж! Ці-ж вы ні ведаеце ніякого способу на гэта? Мо' есьць якое зелле такое? Га?

Баба (спакойна). Ды што-ж! Способ есьць, дык трудна...

Марыська. Ах, міленькая, скажы! кажы хутчэй! Нічога я табе ні пашкадую.

Баба. Ды мне нічога ні трэба... Вось толькі вельмі трудна...

Марыська. Толькі кажы, я усе зраблю!

Баба. А трэба, каб ты, каб, значыцца, уласная жонка, узяла нож, нагастрыла яго аб прыпек, плюнула тройчы пад печ дый выразала гэтыя сухія валасы. Тагды усё добра будзе: ужо ні адрастуць.

Марыська. А як-жа-ж гэта зрабіць? Мікіта як пабачыць, што я раблю, спытаецца, што гэта значыць... Яшчэ Бог ведае што падумае! Што-ж я яму скажу?

Баба. А ты, зязюлька, зрабі гэтак: купі гарэлкі, сьпячы яешню ды й напой свайго гаспадара, а як ён ляжэ і засьне, вазьмі нож ды сягоння-ж, як я казала, і зрабі! Яны валасы значыцца, так і стырчаць проціу шэрсьці. Ды толькі з гэтым трэ' сьпешацца, бо як сухія валасы перарастуць ні сухія, то ужо Мікіта твой прапау, капут!

Марыська. Ах, я ужо сама ні ведаю, як вам падзякаваць за раду, родненькая! А мая-ж ты залаценькая, ніхай Бог нагараду дасьць табе за тваё добрае сэрцо!

Баба. (да сябе). Нагараду дасьць ні Бог...

Марыська. Што кажаце, родненькая?

Баба. Не... я нічога... Кажу: дай Бог, каб удалося табе вылячыць мужа.

Марыська. А чаму-ж не? Я усё зраблю, як вы казалі.

Баба. (устае). Ну, а мне ужо пара... Засідзелася. Бывай здаровенька, зязюлька, дый памятай, значыцца, як ён засьпе, дык ты яго таго... Бывай!..

Марыська. З Богам! з Богам!.. Як вылячу Мікітку, дык ужо вам пекна падзякую.

Баба. Німа за што! німа за што! (выходзіць).

(Канец будзе).

# КРОНІКА.

**Выезд з Менску кс. В. Гадлеускага.** Ксёндз В. Гадлеускі, адыны у Менску беларускі ксёндз і грамадзянскі дзеяч сярод хрысьціянскай дэмакратыі, па загаду біскупа пераведзен у Нясьвіж. 5-го верасьня тутэйшыя беларусы выходзіліся на пажагнальны вечар с ксяндзом Гадлеускім. На вечары гаварылося, што беларусы каталікі будуць заусёды лічыць ад'еждажаючага пастыра сваім лепшым настаунікам, прышчапляушым сваім духоўным сыном дух сапраўднага хрысьціянскага дэмакратызму і замілаванння да свае пакрыўджанае Бацькаўшчыны.

Перад ад'ездам ксяндза Б. Гадлеускага на сваю новую пасаду у Нясьвіж да біскупа Лазінскага хадзіла беларуская дэлегацыя у складзе трох чалавек—Я. Лёсік, А. Прушынскі і П. Алексюк—у справе пытання аб тым, каб аставіць у Менску вікарыя катэдральнаго касьцёла, магістра богасловія кс. Гадлеускаго. Біскуп Лазінскі, заувважыў, што ён цэніць працу Гадлеускаго, але ні знаходзіць магчымым адмяніць сваю пастанову аб пераводзе.

**Концэрт у Койданаве.** 1-го верасьня у мястэчку Койданаве адбыўся беларускі концэрт хора пад кіраўніцтвам Цераўскаго. Концэрт складаўся с трох часьцін. Рэпертуар быў вельмі багаты. Нікаторыя нумары сьпяваліся па тры разы, як прыкладам: «Краіна родная»—гымн муз. Цераўскаго, «Ад веку мы спалі»—марсельеза, «У месяцы верасьні», «Ні сьпевай ты, салавейка» — трыо, «Да дзяўчынкі»—дуэт, «[illegible]» ва вкгіцы мяце-

